# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі
Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 13 (31) | 1-га кастрычніка 1929 году | № 13 (31)

## ЗЬМЕСТ



*В. тэрмінова.*

## Усім акраддзяленьням саюзу СГЛР БССР.

ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!!

1. Праца па ліквідацыі няпісьменнасьці патрабуе ад нас напруджэньня усіх сіл і сродкаў. Бязумоўна, гэтая праца павінна быць выканана на ўсе 100 проц. Наш Саюз абавязан ахапіць лікпунктамі і групамі ўсё няпісьменнае батрацтва. Мы павінны памятаць, што бяз ліквідацыі няпісьменнасьці мы ня зробім культурнае рэвалюцыі, а бяз культурнае рэвалюцыі ня зможам індустрыяліз ваць сельскую гаспадарку і выканаць пяцігодку.

2. Пры гэтым ЦП Саюзу пасылае Вам адбітак генэральнага дагавору, які заключаны ЦП з Наркамасьветы па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці.

Ваш абавязак - зараз жа ўзяцца за выкананьне гэтага дагавору: распаўсюджыць яго па мясцох, абгаварыць (на агульных сходах батракоў і рабочых), высьветліць лік патрэбных лікпунктаў, школ для малапісьменных і адпаведных ім груп, каб абавязкова да 15-га кастрычніка заключыць паакруговы локальны дагавор (згодна п-ту 11-му генэральнага дагавору).

Абгаварэньне дагавору на мясцох не павінна насіць тэорэтычнага характару. Агульныя сходы батракоў і рабочых павінны зараз жа вызначыць прыблізны лік няпісьменных і малапісьменных, павінны паказаць дзе лепш за ўсе адчыніць спэцыяльныя батрацкія лікпункты № школы і групы, канкрэтна пастанавіць аб аказаньні бытавой і працоўнай дапамогі навучаючымся (гл. п-т 9, літ. „з"), а таксама абраць з прафактыву упаўнаважаных Саюзу па ліквідацыі няпісьменнасьці (гл. п-т 9, літ. „г").

Далей рабачкомы павінны наладзіць працу абраных упаўнаважаных. Прапагандай за ліквідацыю няпісьменнасьці; камплектаваньнем лікпунктаў і школ павінны ведаць упаўнаважаныя і культкамісіі рабачкомаў. Але, зразумела, што да гэтай працы павінны быць прыцягнуты і ўвесь прафактыў ў цэлым.

3. Акраддзяленьні зараз-жа, ня чакаючы матар'ялаў з месц, павінны пераглядзець каштарысы рабачкомаў, каб выдзеліць з іх на ліквідацыю няпісьменнасьці ня менш 20 проц. сродкаў культфонду. Акраддзяленьні-ж абавязаны паклапаціцца, каб сродкі, якія прадугледжаны ў паакруговым пляне і ў п. 12-ым

былі сваечасова ўнесяны паасобнымі рабачкомамі ў іх акруговыя касы і каб ня было затрымкі са ўзносам гэтых сродкаў, Акруговым Інспэктарам Асьветы.

4. ЦП чакае ад Вас праз кожныя 10 дзён дакладных зьвестак, што В/зроблена, згодна генэральнага дагавору.

Да гэтых зьвестак павінны быць далучаны адбіткі В/дагавору з Акруговым Інспэктаром Асьветы, а таксама найбольш каштоўныя матар'ялы месц (па абгаварэньню генэральнага дагавору).

ЦП чакзе таксама ад В/,што В/выклічыце на сацыялістычнае спаборніцтва Акрадзяленьне суседняй акругі і пашліцё допісы аб ходзе працы ў газэту „Бел. Батрак“ і ў радыё газэту Саюзу. Што ў гэтых допісах В/адаб'еце, як быў прыняты наш генэральны дагавор шырокай масай членаў Саюзу і батрацтва.

Першы адказ чакаецца да 30/X г. г.

Адк Сэкратар ЦП Саюзу
СГЛР *Шчамялёва*

Нам. Заг. КАЦП. *Маслава*

## Д А Г А В О Р.

1929 г. Верасьня месяца „16“ дню.

Цэнтральнае Праўленьне прафсаюзу Сельска-Гаспадарчых і Лясных Рабочых БССР у асобе старшыні тав. Вайтэнкава і НКАсьветы БССР у асобе інспэктара тав. Науменка зрабілі гэты дагавор у наступным:

1. Уся работа па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сяброў саюзу Сельгаслесрабочых БССР, а раўна і сярод батрацтва, якое ахоплена працдагаворамі, але ня ўцягнута яшчэ ў саюз, праводзіцца органамі Наркамасьветы пры сыстэматычным садзейнічаньні саюзу і пры сыстэматычным яго грамадзкім кантролі.

2. НКАсьветы бярэ на сябе навучаньне ў працягу 1929-30 году:

а) 5000 няпісьменных сяброў саюзу СГЛР;

б) 45.000 няпісьменных батракоў і батрачак, якія ахоплены працдагаворамі, але ня ўцягнуты яшчэ ў саюз;

в) 4.300 малапісьменных сяброў саюзу СГЛР;

г) усіх тых батракоў і сельгаслесрабочых, якія будуць уцягнуты ў лікпункты звыш кантрольных лічбаў гэтага дагавору. (Гл. дадатак да дагавору паакруговы плян ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці).

3. Наркамасьветы абавязуецца:

а) Арганізаваць па паказаньню Саюзу СГЛР, спэцыяльныя батрацкія групы па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці ў ваўсіх тых пунктах: мястэчках, вёсках, пасёлках, хутарах, саўгасах і лясьніцтвах, дзе мяецца ня менш 3-х няпісьменных батракоў, ці сяброў СГЛР, альбо ня менш 5 малапісьменных сяброў саюзу СГЛР. Спэцыяльныя батрацкія лікпункты і школы малапісьменных павінны быць арганізаваны пры наліччы (у пунктах) ня менш 15-ці чалавек няпісьменных і малапісьменных батракоў і сяброў Саюзу СГЛР.

б) Прыймаць у ваўсе лікпункты і групы батракоў і батрачак ад 12 год і старшэй без абмяжаваньня узростам.

в) Прадаставіць для ўсіх батрацкіх лікпунктаў, школ і груп кваліфікаваныя пэдагагічныя сілы.

г) Забясьпечыць лікпункты, школы і групы да пачатку заняткаў у іх, усімі неабходнымі вучэбнымі падручнікамі і пісьменнымі прыладамі (гл. п т 4-ы).

д) Для лікпунктаў, школ і груп прадставіць па магчымасьці адпаведныя памяшканьні.

е) Плянамерна і стала інструктаваць ўсе лікпункты, школы і групы з адведваньнем кожнай з іх дастаткова кваліфікаванымі арганізатарамі—мэтадыстымі ня менш 2-х разоў у працягу месяца (арганізатар-мэтадысты пры адведваньні школы ці групы абавязан зьвязацца з прафсаюзным органам і зрабіць адпаведны запіс ў дзеньніку школы ці групы).

ж) Арганізаваць вучот навучаючыхся батракоў і вынікаў работы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод батрацтва.

з) Асыгнаваць на працу па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод батрацтва і па навучаньню малапісьменных сяброў Саюзу СГЛР—295.474 руб. (гл. дадатак да дагавору—паакруговы плян ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці).

4. Навучаньне ў спэцыяльных батрац-

кіх лікпунктах і групах праводзіцца па спэцыяльнаму лемантару для сельгаслес рабочых, пры чым:

а) ЦП саюзу СГЛР за свой кошт складае гэты лемантар і адпаведную да яго праграму—у 3-х тыднёвы тэрмін з моманту падпісаньня гэтага дагавору;

б) Наркамасьветы за свой кошт выдае гэты лемантар і праграму у колькасьці 60.000 паасобнікаў—у 3-х тыдневы тэрмін з моманту яго атрыманьня ад ЦП Саюзу СГЛР.

*Увага*: У выніку невыкананьня паказаных тут тэрмінаў, лемантар для сельгаслесрабочых выдаецца і рассылаецца на месцы для работы ў лікпунктах і групах, якія будуць арганізаваны пасьля яго атрыманьня мясцамі, а таксама ў летні пэрыяд.

5. Наркамасьветы сумесна з ЦП Саюзу СГЛР уносіць у СНК БССР да 1-га кастрычніка г. г. праэкт пастановы—аб абавязку ўсіх наймальнікоў адпушчаць працуючых у іх батракоў і батрачак на заняткі па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці.

6. Разьмяркаваньне вучашчыхся на групы, а таксама дні і гадзіны заняткаў у кожнай школе ці групе застанаўляюцца ў залежнасьці ад умоў работы і быту на прадпрыемствах, а таксама ад умоў работы і быту батрацтва.

7. НКАсьветы абавязуецца арганізаваць і праводзіць вучобу ў школах і групах, каб да канца навучальнага году вучашчыміся былі атрыманы веды прадугледжаныя адпаведнымі праграмамі школ і каб адсеў вучашчыхся быў мінімальны.

8. Паміма лікпунктаў, школ малапісьменнасьці і адпаведных гэтаму груп, якія будуць арганізаваны згодна п 3-му гэтага дагавору, органы НКАсьветы абавязуюцца абслугоўваць батракоў і членаў прафсаюзу СГЛР агульнымі лікпунктамі, школамі і адпаведнымі групамі.

9. З свайго боку Саюз Сельгаслесрабочых БССР прымае на сябе наступныя абавязацельствы:

а) правесьці камплектаваньне лікпунктаў, школ і груп у аб'ёме, прадугледжаным гэтым дагаворам (пры абавязковым ўдзеле пэдагогаў, якія будуць выдзелены ў гэтыя лікпункты, школы і групы);

б) фінансаваць паказаныя вышэй лікпункты, школы і групы з культфонду Саюзу СГЛР у суме 39.000 руб. і з міжсаюзнага фонду ў суме 11.000 р. (гл. дадатак да дагавору—паакруговы плян ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, а таксама 12-й п.-т. гэтага дагавору);

в) прадставіць для школ і груп памяшканьні ў клюбах, чырвоных куткох ці рабачкомах (пры адсутнасьці памяшканьняў НКАсьветы);

г) выдзеліць ад кожнага рабачкому ўпаўнаважанага па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці;

д) праводзіць у працягу навучальнага году спэцыяльныя сходы, канфэрэнцыі і нарады з удзелам рабачкомаў, пэдагогаў і саміх вучашчыхся лікпунктаў, школ і груп для абмену вопытам, выяўленьня дасягненьняў і недахопаў у працэсе навучаньня, з запрашаньнем на гэтыя сходы прадстаўнікоў партыйных арганізацый, ЛКСМБ, НКА і Т-ва „ПН“;

е) Сыстэматычна праводзіць у клюбах, чырвоных куткох, на прадпрыемствах і пры сельрабачкомах вечарыгутаркі, даклады, пастаноўкі, экскурсіі, кіно і інш. культурныя мерапрыемствы для шырокага растлумачэньня значэньня работ па ліквідацыі няпісьменнасьці, для прыцягненьня да яе ўвагі ўсіх членаў саюзу і для ўтварэньня навакол гэтае работы адпаведнага прафсаюзнага активу;

ж) сыстэматычна праводзіць праз нізовыя органы:

1) спэцыяльныя сходы няпісьменных і малапісьменных членаў саюзу СГЛР і батракоў для абмяркаваньня пытаньняў аб больш пасьпяховым і поўным уцягненьні іх у лікпункты, школы і групы;

2) сходы і гутаркі з неакуратна адведваючымі лікпункты, школы і групы, для выяўленьня прычын неадведваньня і прыняцьця рашучых захадаў для адхіленьня гэтых прычын. (Гэтыя сходы і гутаркі павінны праводзіцца пры абавязковым удзеле пэдагогаў адпаведных лікпунктаў, школ і груп);

з) арганізаваць праз нізавыя саюзныя ворганы ў парадку саюзнай сама-

дзейнасьці бытавую і працоўную дапамогу навучаючымся батракам і батрачкам (як та: спэцыяльныя дзіцячыя пакоі для дзяцей саўгасьніць і батрачак; дзяжурствы на даму пісьменных жанчын з дзяцьмі навучаючыхся батрачак і дзе магчыма—замена на рабоце пастухоў, батрачак і нянь (у гадзіны іх вучобы), садзейнічаньне першачарговаму прыёму дзяцей навучаючыхся батрачак і саўгасьніц у маючыяся ясьлі і г. д.).

10. Паміма садзейнічаньня, памянёнага ў п це 9 гэтага дагавору, саюз СГЛР:

а) праводзіць праз свае газэты („Бел. Батрак“ і радыё-газэту) у працягу кастрычніка і лістапада г. г газэтную кампанію за поўную ліквідацыю няпісьменнасьці сярод СГЛР і батрацтва:

б) арганізуе праз тыя-ж газэты спаборніцтва Акраддзяленьняў саюзу, пасобных раёнаў саюзу і рабачкомаў на найлепшую больш-поўную ліквідацыю няпісьменнасьці сярод батрацтва, для чаго вызначае каштоўныя прэміі;

в) арганізуе праз свае газэты і праз агульны друк у кожнай акрузе конкурс на найлепшага пэдагога па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод батрацтва, для чаго таксама выдзяляе адпаведныя прэміі;

г арганізуе па рабачкомах—конкурсы на батрака, які найбольш пасьпяхова скончыць лікпункт, і „сьвяты навучыўшыхся ;

д) дае ў газэце „Бел. Батрак“ у дапамогу лемантару 1 раз у тыдзень спэцыяльны „куток для навучаюшчыхся ў лікпунктах“ з скарыстоўваньнем бягучага палітычнага і прафсаюзнага матар'ялу;

е) сыстэматычна асьвятляе праз свае газэты („Бел. Батрак“ і радыё-газэту) усе недахопы і дасягненьні работы па ліквідацыі няпісьменнасьці і па ахопу школамі малапісьменных.

11. На падставе гэтага дагавору і гэтых кантрольных лічбаў Акраддзяленьні Саюзу СГЛР павінны заключыць да 15-га кастрычніка адпаведныя дагаворы з Акруговымі Інспэктарамі НКАсьветы, пры чым зьвесткі па дагаворах—аб мясцох арганізацыі лікпунктаў, школ і груп павінны быць сабраны на мясцох раённымі інструктарамі пасьля адпаведнага іх абгаварэньня на агульных сходах сельгаслесрабочых і батрацтва.

12. Сродкі на навучаньне батрацтва і членаў саюзу СГЛР уносяцца Акраддзяленьнямі Саюзу СГЛР і з міжсаюзнага фонду (Акрпрафсаветамі) ў наступныя тэрміны:

а) 25 проц. уносіцца праз два тыдні пасьля заключэньня дагавораў Акраддзяленьнямі Саюзу СГЛР;

б) 30 проц. уносіцца 15-га сьнежня г. г.;

в) 45 проц уносіцца 15-га красавіка 1930 г.

13. Па сканчэньні 1-га паўгодзьдзя вучобы праводзіцца перавучот колькасьці вучашчыхся ў лікпунктах, школах і групах.

14. НКАсьветы і Саюз СГЛР абавязуюцца выпаўніць усе свае абавязацельствы такім чынам, каб у зімовы пэрыяд 1929-30 г. быў забясьпечаны своечасовы пачатак заняткаў сярод сельгаслесрабочых і батрацтва ў лікпунктах, школах і групах, а мяноўна не пазьней 5 лістапада 1929 г., а таксама канчатак гэтых заняткаў не пазьней 15 красавіка 1930 г.

15. НКАсьветы і Саюз СГЛР абавязуюцца заключыць да 1-га красавіка 1930 года новы дагавор на летні пэрыяд работы аб ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці—на сплаве, торфараспрацоўках, падсочцы, мэліарацыі і агародах.

16. НКАсьветы абавязуецца на працягу 1929-30 году вырашыць пытаньне аб утварэньні новых кадраў ліквідатараў няпісьменнасьці з батрацтва, саўгасьнікаў і лясных рабочых і арганізаваць для іх па раёнах спэцыяльныя курсы з такім падрахункам, каб першыя кадры батракоў-ліквідатараў няпісьменнасьці ўвайшлі ў работу не пазьней 1930-31 году.

*Дадатак* да гэтага дагавору—паакруговы плян ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці.

Наркамасьветы БССР **Науменка.**

ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых
БССР **Вайтэнкаў.**

БССР.
г. Менск.

Дадатак да дагавору ад 16-IX-1929 г.

# ПААКРУГОВЫ ПЛЯН

## ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці ў 1929-30 годзе па саюзу сельгаслесрабочых БССР.

| Акругі | МІНІМУМ ЗАДАНЬНЯ | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Па ліквідацыі няпісьменнасьці | | | | | Па ахопу школ мі малапісьменных | | | | |
| | Лік навучаемых батракоў і рабоч. | Затраты | За кошт каго: Наркамасьветы | Саюзу СГЛР | Міжсаюзн. фонду | Лік навучаемых батракоў і рабоч. | Затраты | За кошт каго: Наркамасьветы | Саюзу СГЛР | Міжсаюзн. фонду |
| Бабруйская . . . | 7.400 | 45.288 | 41.828 | 2.700 | 760 | 650 | 5.967 | 1.771 | 3.250 | 946 |
| Віцебская . . . . | 5.700 | 34.884 | 31·984 | 2.250 | 650 | 350 | 3.213 | 1.205 | 1.520 | 488 |
| Гомельская . . . | 5.800 | 35.496 | 32.306 | 2 550 | 640 | 420 | 3.855-60 | 1.395·80 | 1.900 | 560 |
| Магілёўская . . . | 6.400 | 39.168 | 35.718 | 2.700 | 750 | 480 | 4.409 40 | 1.695-40 | 2.130 | 580 |
| Мазырская. . . . | 3.400 | 20.808 | 19.098 | 1·350 | 390 | 500 | 4.590 | 1.754 | 2.150 | 688 |
| Менская. . . . . | 10.200 | 62 424 | 57.624 | 3.700 | 1.100 | 1.000 | 9.180 | 3·730 | 4.450 | 1.000 |
| Аршанская. . . . | 6.600 | 40.392 | 37.272 | 2.380 | 740 | 580 | 5.324-40 | 2 219-40 | 2·325 | 780 |
| Полацкая . . . . | 4.500 | 27.540 | 25 170 | 1.870 | 500 | 320 | 2.037-60 | 702·60 | 1.775 | 460 |
| РАЗАМ . . | 50.000 | 306.000 | 281.000 | 19.500 | 5.500 | 4.300 | 39.474 | 14.474 | 19 500 | 5.500 |

„16" Верасьня 1929 г.

*Наркамасьветы БССР НАУМЕНКА*

*ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР ВАЙТЭНКАЎ*

Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.
Адказны рэдактар—Вайтэнкаў.
Намесьнікі яго: Аскерка, Юшкевіч.
Галоўлітбел № 2789. Тыраж 1200 экз. Друкарня Менспраўдома.